# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 9 (56) Верасень 2011 г.

## 11 палітвязьняў выходзяць на свабоду



Аляксандар Лукашэнка памілаваў яшчэ 11 асуджаных па «справе 19 сьнежня», паведамілі ў прэсавай службе кіраўніка дзяржавы 14 верасьня. «Кіруючыся прынцыпамі гуманнасьці, прэзыдэнт падпісаў Указ аб памілаваньні 11 асоб, асуджаных за ўдзел у вулічных непарадках у Менску 19 сьнежня 2010 году», — піша прэс-служба Аляксандра Лукашэнкі.

“Памілаваныя”:

Аляксандар Атрошчанкаў
Дзьмітры Буланаў
Ільля Васілевіч
Павал Вінаградаў
Аляксандар Класкоўскі
Мікіта Ліхавід
Уладзімер Лобан
Аляксандар Малчанаў
Фёдар Мірзаянаў
Дзьмітры Новік
Алег Федаркевіч

11 жніўня былі памілаваныя 9 асуджаных па справе аб масавых непарадках, 1 верасьня яшчэ 4 — як паведамлялася, пасьля іх прашэньня аб памілаваньні. У цяперашнім паведамленьні прэсслужбы А.Лукашэнкі не прыгадваецца, што памілаваныя вязьні прызналі сваю віну. У жніўні яшчэ супраць 6 чалавек былі спыненыя крымінальныя справы па падзеях 19 сьнежня.

Памілаваньню ўдзельнікаў Плошчы папярэднічала таемная сустрэча Лукашэнкі зь міністрам замежных справаў Балгарыі Мікалаем Младэнавым у Менску 26 жніўня. Па выніках сустрэчы Младэнаў у лісьце на імя вярхоўнага прадстаўніка Эўразьвязу па замежных справах і палітыцы бясьпекі Кэтрын Эштан інфармаваў яе, што ўсіх палітвязьняў Аляксандар Лукашэнка абяцаў вызваліць да пачатку кастрычніка. Пазьней польская газэта Rzeczpospolita са спасылкай на крыніцу ў МЗС Польшчы паведаміла, што на сустрэчы з Лукашэнкам Младэнаў павінен быў прапанаваць беларускаму лідэру аднаўленьне адносінаў з Эўразьвязам і 2 млрд. эўра ў абмен на вызваленьне ўсіх палітвязьняў да канца 2011 году. Аднак МЗС Балгарыі катэгарычна абвергла гэтыя зьвесткі.

## 7 асуджаных за Плошчу застаюцца ў зьняволеньні + 6 анархістаў + Мікалай Аўтуховіч і Алесь Бяляцкі



За кратамі застаецца 7 асуджаных за удзел у падзеях 19 сьнежня 2010 году (Плошча). Гэта трое экскандыдытаў у прэзыдэнты: Мікалай Статкевіч, Дзьмітры Вус, Андрэй Саньнікаў, застаецца за кратамі давераная асоба Саньнікава Зьміцер Бандарэнка, адбывае хімію (г.зн. абмежаваньне волі) ў Пружанскім раёне давераная асоба Віталя Рымашэўскага Павал Севярынец.

Можна сьмела лічыць асуджанымі за Плошчу Зьмітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава, затрыманых 18 сьнежня і асуджаных нібыта за бойку (хуліганства). Нагадаем, што да «хіміі», але без накіраваньня ў папраўчыя ўстановы, былі таксама асуджаныя Дзьмітры Мядзьведзь і Андрэй Пазьняк. За кратамі таксама знаходзяцца менскія і бабруйскія анархісты: Мікалай Дзядок, Аляксандар Францкевіч, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Павал Сырамлотаў, Арцём Пракапенка, ваўкавыскі прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч і праваабаронца Алесь Бяляцкі.

# Сьледчая, якая вядзе справу Алеся Бяляцкага, паставіла выраб адпісак на канвэер



Тацьцяна Касынкіна, сьледчая, якая вядзе справу Алеся Бяляцкага, удасканаліла сыстэму масавых адпісак. Як распавялі выданьню "За правы чалавека" некалькі актывістаў зь Віцебску, "Пастанова аб адмове ў задавальненьні заяўленага хадайніцтва" цяпер набыла новы выгляд. Гэтая пастанова дасылаецца кожнаму, хто прасіў вызваліць Алеся Бяляцкага пад яго асабістае паручальніцтва.

Ранейшыя, таксама збольшага стандартныя, лісты-адмовы захоўвалі пэўныя рысы індывідуальнасьці. У іх у некалькіх месцах пазначалася імя асобы, якой даваўся адказ на яе зварот ва Ўпраўленьне фінансавых расьсьледаваньняў КДК. Цяпер жа ўсе лісты старэйшага лейтэнанта Касынкінай сталіся падобнымі адзін да аднаго як дзьве кроплі вады. З адмоваў міліцыянткі, афармленых паводле новага ўзору, незразумела, каму яны адрасуюцца, у адказ на чыё хадайніцтва.

Імаверна, сьледчая Касынкіна стамілася рыхтаваць заяўнікам індывідуальныя адмовы, устаўляючы ў стандартны шаблён прыдуманай ёй адпіскі кожны раз новае імя. Таму шаблён быў крыху выпраўлены. У выніку зьнікла патрэба штосьці ў ім рэдагаваць, і цяпер "пастановы аб адмове ў задавальненьні заяўленага хадайніцтва" можна друкаваць масава - напрыклад, на ксэраксе. Вядома, гэткая вынаходка сьледчай значна падвысіла прадукцыйнасьць выконваемай ёю папяровай працы. Толькі вось якасьць такой працы пагоршылася. Да ранейшых хібаў пастановаў, падпісаных Касынкінай, дадаліся новыя.

На думку праваабаронцаў, лісты, што атрымліваюць грамадзяне ў адказ на свае хадайніцтвы аб вызваленьні Алеся Бяляцкага, сьведчаць аб цэлым шэрагу парушэньняў заканадаўства з боку Касынкінай. Па-першае, насуперак патрабаваньню крымінальна-працэсуальнага кодэксу сьледчая ніяк не тлумачыць у вынесеных ёй пастановах прычынаў, зь якіх мера стрыманьня ў дачыненьні да спадара Бяляцкага ня можа быць зьмененая.

Па-другое, сьледчай не выконваецца палажэньне ўсё таго ж кодэксу, згодна зь якім у выпадку адмовы ў задавальненьні хадайніцтва, пастанова аб гэтым даводзіцца да ведама асобы, якая хадайніцтва заявіла. Замест давядзеньня да ведама заяўнікоў патрэбнай інфармацыі, Касынкіна дасылае аднолькавыя лісты ў адрас невядома каго з тэкстам пастановаў наконт невядома чыіх зваротаў.

Па-трэцяе, старэйшы лейтэнант міліцыі парушае таксама нормы дзейнага "Закону аб зваротах грамадзян". Гэты закон абавязвае службовых асобаў тлумачыць грамадзянам парадак абскарджаньня рашэньняў, прынятых па іх зваротах. На магчымасьць абскардзіць пастановы, прынятыя Касынкінай, у яе лістах няма ніякага намёку.

І, нарэшце, новая форма адказаў, вынайдзеная Касынкінай, супярэчыць прынятай Мін'юстам "Інструкцыі па справаводзтве ў дзяржаўных органах і арганізацыях Рэспублікі Беларусь". Гэтая інструкцыя, якая патрабуе пры адрасаваньні дакумэнту прыватнай асобе пазначаць у лісьце прозьвішча і ініцыялы (імя, імя па бацьку) атрымальніка і ягоны паштовы адрас, зьяўляецца актам заканадаўства, абавязковым для выкананьня службовымі асобамі ўсіх дзяржаўных органаў і арганізацыяў.

Такім чынам, колькасьць парушэньняў заканадаўства з боку сьледчай Касынкінай атрымалася досыць вялікай. Праваабаронцы раяць тым, хто не задаволены атрыманымі ад яе адказамі наконт немагчымасьці вызваліць Алеся Бяляцкага пад паручальніцтва, зьвяртацца са скаргамі ў пракуратуру. Праўда, не зусім зразумела, якім чынам супрацоўнікі гэтай установы змогуць пераканацца, што чалавек, які зьвернецца да іх, і той, каму Касынкіна даслала пастанову без пазначэньня імя - гэта адна і тая ж асоба. Напэўна, дапамагчы ім ідэнтыфікаваць пастановы маглі б выходныя нумары, якія ёсьць на кожным зь лістоў. Толькі вось ці змогуць работнікі пракуратуры разабраць почырк, якім напісаныя лічбы, - гэта пытаньне.



Исход. № 18/5-05-1-174/297
« 02 » 09 2011 г.

ПОСТАНОВЛЕНИЕ
об отказе в удовлетворении заявленного ходатайства

г. Минск 02 сентября 2011 г.

Следователь 2 СО ОПР УДФР КГК Республики Беларусь по Минской области и г. Минску старший лейтенант финансовой милиции Косынкина Т.В., рассмотрев материалы уголовного дела №11081100188, -

УСТАНОВИЛ:

Отделом предварительного расследования УДФР КГК Республики Беларусь по Минской области и г. Минску расследуется уголовное дело № 11081100188 по обвинению Беляцкого А.В. в совершении преступления, предусмотренного ч. 2 ст.243 УК Республики Беларусь.

02.09.2011 в ОПР УДФР КГК Республики Беларусь по Минской области и г. Минску поступило Ваше ходатайство о применении в отношении Беляцкого А.В. меры пресечения в виде личного поручительства.

Настоящее ходатайство не подлежит удовлетворению на основании того, что 05.08.2011 в отношении Беляцкого А.В. избрана мера пресечения в виде заключения под стражу, оснований для изменения данной меры пресечения не имеется.

На основании изложенного, руководствуясь, ч.3 ст.137 УПК Республики Беларусь,-

ПОСТАНОВИЛ:

1. Отказать в удовлетворении заявленного ходатайства.
2. О принятом решении уведомить заявителя.

Следователь второго следственного отделения
ОПР УДФР КГК Республики Беларусь
по Минской области и городу Минску
старший лейтенант финансовой милиции Т.В. Косынкина

## Віцебскі флэш-моб у падтрымку Алеся Бяляцкага



Віцебскія грамадзкія і палітычныя актывісты, праваабаронцы і журналісты адгукнуліся на заклік ПЦ "Вясна" "Дашліце ліст падтрымкі Алесю Бяляцкаму!". Цягам некалькіх дзён яны напісалі каля трыццаці лістоў на паштоўках. Паштоўкі даслалі на адрас менскага СІЗА № 1, што на вул. Валадарскага.

Зьмест паштовак не зусім звычайны: на кожнай зь іх напісаны адзін з радкоў верша Максіма Багдановіча "Пагоня". Такім чынам, калі да Алеся Бяляцкага прапусьцяць усе дасланыя актывістамі Віцебску лісты, ён зможа прачытаць поўны тэкст вядомага патрыятычнага твору.

"Фактычна, гэта быў флэш-моб, - гаворыць адзін з удзельнікаў акцыі падтрымкі. - У дадатак да традыцыйных формаў маральнай падтрымкі Алеся Бяляцкага мы ўжылі крэатыў. Паштоўкі з краявідамі Віцебшчыны ў спалучэньні з натхняльнымі радкамі мусяць падбадзёрыць праваабаронцу і аздобіць шэрасьць яго турэмнага побыту".



# Андрэй Саньнікаў зьвяртаецца з адозвай з турмы

Кандыдат у прэзыдэнты ня мае намеру мяняць свой турэмны тэрмін на легітымнасьць дзейнага кіраўніка краіны. Андрэй Саньнікаў, прысуджаны да 5 гадоў турмы за арганізацыю акцыі пратэсту супраць фальсыфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў, перадаў на волю адкрыты зварот:

«Толькі зьмена ўлады ў Беларусі можа вывесьці краіну з крызісу. Больш таго, толькі зьмена ўлады зможа захаваць Беларусь як незалежную дзяржаву, выратаваць нашую мову і культуру. Сёньня для гэтага ў нас ёсьць унікальны і, самае галоўнае, рэальны шанец.



Пасьля 19 сьнежня 2010 году ўсяму сьвету стала зразумела, што рэжым Лукашэнкі небясьпечны для беларусаў, што беларускі народ не падтрымлівае цяперашнюю ўладу, але пазбаўлены права выбару з-за таго, што ягоны голас ігнаруюць. Усім відавочна, што эканамічны крах у Беларусі - гэта вынік палітыкі цяперашняга рэжыму. Больш таго, далейшае знаходжаньне Лукашэнкі ва ўладзе прывядзе да поўнага каляпсу эканомікі.

Мы можам і павінныя сёньня зьмяніць свой лёс і аднавіць добрае імя Беларусі ў адносінах з нашымі суседзямі, Расеяй і Эўропай, а таксама са Злучанымі Штатамі Амэрыкі. Усе чакаюць, што мы, нарэшце, самі гэта зробім. Менавіта гэтае пытаньне павіннае сёньня стаць галоўным для беларусаў. Час для дыялёгу з уладай застаўся ў мінулым. Апошняя спроба такога дыялёгу скончылася 19 сьнежня зьбіцьцём тысяч людзей і арыштамі соцень. Калі рэжым кажа аб дыялёгу, ён мае на ўвазе ўтрыманьне ўлады любым коштам і зьнішчэньне апазыцыі. Трэба памятаць сваю гісторыю і здабываць зь яе ўрокі.

Сёньня шматлікія прыгадваюць дыялёг з уладай у 1999 годзе, але пазьбягаюць прынцыповай ацэнкі гэтага дыялёгу. Я лічу, што гэта былі самыя ганебныя старонкі ў гісторыі беларускай апазыцыі, таму што сфарміраваная офісам АБСЭ і рэжымам Лукашэнкі перамоўная група вяла дыялёг, заплюшчваючы вочы на сьмерці і зьнікненьні палітычных лідэраў. У красавіку 1999 году пры нявысьветленых абставінах памёр Генадзь Карпенка. У траўні - зьнік Юры Захаранка. У верасьні - выкрадзеныя Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі. Але «перамоўшчыкі» нават не прыгадвалі пра іх.

Адно гэта ўжо пазбаўляе той жа рэжым права казаць аб дыялёгу, а апазыцыю - нават разглядаць такую магчымасьць. Вынік таго дыялёгу - яшчэ 12 гадоў гідкай дыктатуры. Апазыцыя ня можа дазволіць уладам у чарговы раз выкарыстаць сябе як аднаразовы выраб. Ня гэтага чакае народ Беларусі. Ня гэтага чакаюць нашы суседзі і ў Расеі, і на Захадзе, а таго, што Беларусь стане нармальным прадказальным міжнародным партнэрам.

Я ведаю, што мая пазыцыя, мае заявы падаўжаюць тэрмін майго знаходжаньня ў няволі, але гэта і зьяўляецца сьведчаньнем сапраўдных намераў рэжыму. Усе перадумовы для зьмены ўлады, для вяртаньня народу права выбару сёньня існуюць. Патрэбныя рашучасьць, мужнасьць, прынцыповасьць.

Гісторыя робіцца сёньня. Гісторыю робім мы. Разам мы пераможам!»

# Ігар Аліневіч адзначыў дзень народзінаў у калёніі



Ігар Аліневіч, які атрымаў 8-гадовы тэрмін, адбывае яго ў Наваполацкай калёніі. Аліневіча год таму затрымалі ў Маскве, прывезьлі ў Менск і да суду трымалі ў СІЗА КДБ разам з удзельнікамі падзеяў 19 сьнежня. 24 верасьня Ігар Аліневіч адзначыў у турме 28-ы дзень народзінаў. Празь некалькі дзён маці вязьня Валянціна Аліневіч атрымала ад яго ліст пасьля больш як двухтыднёвага маўчаньня. Жанчына адзначае, што званкоў ад сына ўвогуле ні разу не было:

«Пра сваё жыцьцё піша вось што. Магу зачытаць зь ліста, я ж яго паўсюль з сабой нашу. "У апошнія дні атрымаў шмат лістоў і паштовак. Сказаць, што іх было шмат — нічога не сказаць. Дзень народзінаў я адзначыў вельмі прыстойна. Са згушчонкі і каржоў зрабілі два тарты, лепшыя, чым у краме. А раніцай мяне павіншавалі ў нашай сэкцыі — я вельмі расчуліўся"».

А як ставіцца адміністрацыя калёніі да анархіста Аліневіча? Маці вязьня кажа, што сыну чамусьці не задаволілі заяву на доўгатэрміновае спатканьне. У вязьня хворае сэрца, але гэта за кратамі ня ўлічваецца, мяркуе Валянціна Аліневіч. Жанчына распавяла, што Менскі гарадзкі суд і прэзыдыюм суду адхілілі касацыйную скаргу на прысуд, і цяпер яны рыхтуюць скаргу ў Вярхоўны Суд.

## Дашкевіч сядзіць у адзіночцы: адвакат наведала яго ў Глыбоцкай калёніі

Адвакатка Марына Кавалеўская наведала зьняволенага кіраўніка "Маладога фронту" Зьмітра Дашкевіча ў Глыбоцкай калёніі. Яна паведаміла Ўладзімеру Палажанку, бацьку Насты Палажанкі, нявесты Зьмітра, што Дашкевіч сядзіць у адзіночнай камэры. Дашкевіч заявіў адвакатцы, што ня мае прэтэнзіяў да адміністрацыі калёніі. Кавалеўская таксама паведаміла, што Дашкевіч пачуваецца нармальна, але стан яго здароўя вельмі слабы. Зьміцер пацьвердзіў словы былога кандыдата на прэзыдэнта, палітзьняволенага Андрэя Саньнікава пра пагрозы жыцьцю і яго, і самога Саньнікава.

Паводле праваабаронцы Алены Танкачовай, адвакатка мяркуе, што ў сувязі зь пераводам Зьмітра ў Глыбоцкую калёнію ціск на яго будзе мінімізаваны: «Сытуацыя такая: выйшла адвакат ад яго і сказала, што ён вельмі слабы фізычна і, натуральна, у такім некалькі падаўленым псыхалягічным стане. Але ў яе ёсьць адчуваньне, што ў сувязі зь пераводам, ціск на яго будзе, магчыма, мінімізаваны. Прынамсі, яна на гэта спадзяецца. Яна сказала, што ў параўнаньні з сытуацыяй учорашняй і пазаўчорашняй, сёньня лепш. Адзіночная камэра навогул гарантуе ахову ад таго, чаго мы больш за ўсё асьцерагаліся. Дадатковай нэгатыўнай інфармацыі няма. Гэта самая вялікая ў гэтай сытуацыі радасьць».

Таксама Алена Танкачова дадала, што аб пагрозе бясьпецы і, магчыма, жыцьцю Дашкевіча стала вядома зь некалькіх крыніцаў, аднак казаць пра іх яна ня стала. Праваабаронца зьвярнулася да прадстаўнікоў дыпляматычных місіяў з просьбай распачаць дзеяньні, каб патрапіць да Дашкевіча і даведацца адносна яго стану здароўя і ўмоваў знаходжаньня.

28 верасьня Ірына Халіп пераказала журналістам словы свайго мужа Андрэя Саньнікава. Халіп заявіла, што ў магілёўскім і віцебскім ізалятарах да Саньнікава падыходзілі вязьні і папярэджвалі, што ёсьць пагроза здароўю і жыцьцю яго самога і Зьмітра Дашкевіча. Саньнікаў і Дашкевіч сустракаліся 20 верасьня ў віцебскім перасыльным пункце і ўтрымліваліся ў адной камэры. Паводле інфармацыі, якую атрымала Халіп, Зьміцер Дашкевіч знаходзіцца ў дрэнным стане: ён моцна схуднеў, але галадоўку, абвешчаную 13 верасьня, спыніў. Андрэй Саньнікаў пакінуў яму свае прадукты харчаваньня.

Зьмітра Дашкевіча 27-га верасьня этапавалі ў Глыбоцкую калёнію (Віцебская вобласьць), якая лічыцца адным з самых суворых месцаў зьняволеньня ў Беларусі.



26 верасьня бацька Насты Палажанкі Ўладзімер атрымаў ад Дашкевіча ліст, у якім той прасіў пра тэрміновую сустрэчу з адвакатам. Дашкевіч адправіў ліст з транзытнай камэры ў Магілёўскім СІЗА. Сама Наста Палажанка, нявеста і намесьніца Дашкевіча ў кіраўніцтве арганізацыі "Малады фронт", адбывае цяпер 11 сутак арышту. 19 верасьня яе і былога палітвязьня Ўладзімера Яроменка затрымалі, калі яны меліся вывесіць у Менску нацыянальныя сьцягі.

Зьмітра Дашкевіча асудзілі на 2 гады зьняволеньня нібыта за хуліганства. Суд прызнаў, што 18 сьнежня Зьміцер Дашкевіч і актывіст "Маладога фронту" Эдуард Лобаў зьбілі ў Менску мінакоў. Дашкевіч і Лобаў сваёй віны не прызналі і заявілі, што гэта была правакацыя сьпецслужбаў напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў.

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.